Гродна
№19 (477),
15 кастрычніка 2017

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# Любоўю сваёй мацярынскай прыгожая



**14 кастрычніка ў краіне адзначаецца Дзень маці**

**У гэтае свята кожны з нас хоча асаблівым чынам падзякаваць самаму блізкаму чалавеку на зямлі за дар жыцця, клопат, пяшчоту і дабрыню, далікатнае і чулае сэрца, у якім ніколі не згасае бескарыслівая любоў. З маленства і на працягу ўсяго жыцця матуля – наш Анёл-ахоўнік. І пакуль яна ёсць, нават у сталым узросце адчуваем сябе дзецьмі.**

● працяг на с. 4

# СІЛА ЎРАЧА – У ЯГО ЛЮБОВІ ДА ЧАЛАВЕКА

**Мы давяраем людзям у белых халатах свае слабасці. Спадзяёмся, што будзем выслуханы і нам дапамогуць. Як радуецца сэрца, калі сустракаецца "той самы" ўрач! Атрымліваем палёгку і ідзём на папраўку. Пасля, шчаслівыя, дзякуем за аздараўленне. На гэта адзін добры доктар заўважыў: "Я не лячу, толькі дапамагаю лячыцца. Урач здольны вярнуць хвораму здароўе тады, калі таго захоча… Бог".**

● працяг на с. 6



18 КАСТРЫЧНІКА – ЛІТУРГІЧНЫ ЎСПАМІН СВ. ЛУКІ, АПЕКУНА СЛУЖБЫ АХОВЫ ЗДАРОЎЯ. У ГЭТЫ ДЗЕНЬ ПРАЗ ЗАСТУПНІЦТВА СВЯТОГА КАСЦЁЛ УЗНОСІЦЬ ДА БОГА МАЛІТВЫ Ў ІНТЭНЦЫІ МЕДЫКАЎ.

**"Бог стварыў жанчыну, каб мы ўсе мелі маці". Папа Францішак**

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

**XXVIII ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ**
**Мц 22, 1–10**

Адказваючы, Езус зноў расказаў прыпавесць першасвятарам і старэйшынам народа: "Валадарства Нябеснае падобнае да караля, які справіў вяселле для сына свайго. І паслаў слуг сваіх паклікаць запрошаных на вяселле, але не хацелі прыйсці. Зноў паслаў іншых слуг, кажучы: «Скажыце запрошаным: вось я прыгатаваў гасціну маю, зарэзаны валы мае і адкормлена жыўнасць, і ўсё падрыхтавана. Прыходзьце на вяселле!». Але яны пагардзілі і адышлі: хто на сваё поле, а хто на свой гандаль. Астатнія ж, схапіўшы слуг ягоных, зняважылі і забілі іх. Кароль жа разззлаваўся і, паслаўшы войска сваё, знішчыў забойцаў гэтых і падпаліў іхні горад. Тады ён кажа сваім слугам: «Вяселле гатова, але запрошаныя не былі годнымі. Таму пайдзіце на ростані і ўсіх, каго сустрэнеце, запрасіце на вяселле». І слугі тыя, выйшаўшы на дарогі, сабралі ўсіх, каго знайшлі: і кепскіх, і добрых. І напоўнілася вяселле гасцямі".

### ДЗЕ НАШАЕ МЕСЦА?

Фрагмент Евангелля распавядае пра вяселле, на якое запрошаныя госці не прыйшлі, тлумачачы гэта разнастайнымі справамі, што палічылі больш важнымі, чым раздзяляць радасць з гаспадаром.

Бог Айцец кліча ўсіх на гасціну, дзе можна быць побач з Хрыстом. Гэта адбываецца ўжо сёння, падчас зямнога жыцця. І менавіта нам належыць рашэнне, ці захочам выкарыстаць яго. А адказ выражаецца праз штодзённае жыццё, учынкі. Аднак вельмі часта многія людзі настолькі загружаюцца ў будзённыя справы, што забываюць пра гэтае запрашэнне, а таксама пра тое, што ўдзел у нябеснай гасціне – гэта нагода, каб быць шчаслівым, знайсці сапраўдную радасць у жыцці. Падобна як у Евангеллі, часта здараецца так, што чалавек лічыць за лепшае выканаць у нядзелю пэўную хатнюю працу, чым пайсці на св. Імшу, або паглядзець фільм, чым памаліцца. Можа здавацца, у гэтым няма нічога страшнага, аднак на самой справе асоба ігнаруе запрашэнне Айца.

Сённяшняе Божае слова запрашае кожнага прыкладваць у сваім жыцці ўсе намаганні, каб прыйсці на гасціну Хрыста ў Яго Валадарстве, бо менавіта там нашае месца.

**XIX ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ**
**Мц 22, 15–21**

Фарысеі пайшлі і раіліся, як бы злавіць Езуса на словах. І пасылаюць да Яго вучняў сваіх разам з прыхільнікамі Ірада, каб сказалі: "Настаўнік, мы ведаем, што Ты праўдзівы і шляху Божаму праўдзіва навучаеш і не зважаеш ні на кога, бо не глядзіш на асобу чалавека. Таму скажы нам: як Табе здаецца, ці належыць даваць падатак цэзару, ці не?". Але Езус, ведаючы зласлівасць іхнюю, сказаў: "Што выпрабоўваеце Мяне, крывадушныя? Пакажыце Мне падатковую манету". Яны прынеслі Яму дынар. І кажа ім: "Чыя гэта выява і надпіс?". Кажуць Яму: "Цэзара". Тады кажа ім: "Дык аддайце цэзарава цэзару, а Божае – Богу".

### КОЖНАМУ АДДАЙМА ТОЕ, ШТО ЯМУ НАЛЕЖЫЦЬ

Дадзены фрагмент Евангелля прыгадвае, што ў жыцці мы маем справу з зямнымі рэчамі, з бясконцымі абавязкамі адносна сям'і, працадаўцы, дзяржавы. Аднак варта ўсвядоміць, што на гэтым нельга спыняцца. З'яўляючыся грамадзянамі Зямлі, мы павінны памятаць, што пакліканы стаць у будучым грамадзянамі Нябеснага Валадарства. Таму не трэба блытаць таго, што Божае ці вядзе да Пана, з тым, што мае часовы характар і хутка растварыцца ў вечнасці.

Такім складаным пытаннем Езуса хацелі выпрабаваць, каб пасадзіць у вязніцу. Аднак Хрыстос ясна адказаў: "Дык аддайце цэзарава цэзару, а Божае – Богу". Кожны, хто прагне жыць Евангеллем, павінен вучыцца аддаваць Усемагутнаму тое, што належыць Яму, а часовым кіраўнікам – што ім належыць, памятаючы: да Стварыцеля вядзе праўда, якая мае вечнае вымярэнне.

*Кс. Ян Раманоўскі*

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Маці – люстра для свайго дзіцяці

*У кастрычніку ў Беларусі адзначаецца Дзень маці. Той, якая нас нарадзіла, была падтрымкай падчас першых крокаў – як у дзяцінстве, так і ў дарослым жыцці. Той, якая заўсёды ўмее знайсці патрэбныя словы, падтрымаць і суцешыць, але таксама перасцерагчы, калі сыходзім на дрэнную дарогу.*

На працягу 9-ці першых месяцаў маці ў літаральным сэнсе з'яўляецца жыллём для дзіцяці, а пасля яго нараджэння становіцца той выключнай асобай, якая сваёй прысутнасцю, любоўю і пяшчотай абараняе немаўля ад пагроз навакольнага свету і дапамагае яму справіцца з унутранымі страхамі. Маці з'яўляецца такім люстрам, праз якое дзіця назірае за светам і глядзіць на самога сябе. Гэта яна няраз паўтарае, што "ў жыцці трэба кімсьці быць, а не толькі мець".

Кожная зямная мама – першая і найважнейшая выхавацельніца сваіх дзяцей. Вельмі трапна на гэты конт некалі заўважыў св. Ян XXIII: "Адна маці вартая столькі, колькі 100 настаўнікаў". Яна здольна стварыць дома атмасферу спакою і радасці, весці жыццё, поўнае энтузіязму, адкрытасці і ўзаемапавагі.

Маці, якая з'яўляецца сябрам для сваіх дзяцей, без страху глядзіць на тое, як яны пакідаюць родны дом, каб рэалізаваць пакліканне. Ведае, што кожны павінен сам будаваць уласнае жыццё, ад яе толькі залежыць – на якім фундаменце. Яна таксама ўпэўнена, што ў якой бы патрэбе ні былі сын ці дачка, абавязкова звярнуцца да яе за парадай або дапамогай.

Найважнейшае заданне маці – навучыць дзіця сталай любові, паколькі менавіта яна прыносіць радасць. Асоба, што адчувае сябе любімай, не цікавіцца субстанцыямі, якія абяцаюць "паправіць" настрой, а затым ашукваюць, робяць залежнымі і вядуць да смерці. Ад маці ў значнай ступені залежыць, ці будзе сын або дачка адчуваць сябе бяспечна, ці зможа павярыць у любоў і не адкідваць яе на чарговых этапах свайго развіцця.

Мудрая маці кахае той любоўю, якой навучыў Хрыстос. Яна таксама клапоціцца аб рэлігійным выхаванні свайго дзіцяці. Тлумачыць яму, што Бог з'яўляецца Стварыцелем усяго, міласэрным Айцом, які любіць нават больш, чым яна сама. Распавядае гісторыю збаўлення, вучыць пацерам, фарміруе сумленне на падставе Дэкалога, рыхтуе да сакрамантаў, разам удзельнічае ў Эўхарыстыі.

Сучаснаму свету востра неабходны маці, якія перадаюць хрысціянскія каштоўнасці, прыводзяць дзяцей у Касцёл, заахвочваюць да супольнай малітвы і размоў пра Бога. Дзякуючы такой паставе падрастаючае пакаленне ўсведамляе, што з'яўляецца крыніцай сапраўднага шчасця.

**Дарагія Чытачы!**

Давайце падумаем пра сваіх матуль, бо менавіта яны зрабілі для нас найбольш за ўсіх людзей на зямлі. Выкажам ім удзячнасць за тысячы гадзін клопату, за турботы нашага выхавання. Падзякуем таксама за іх Маці Божай, Каралеве святога Ружанца. Зробім гэта словам ці праз сваю малітву.




# ЗАСТУПНІК У СКЛАДАНЫХ І БЕЗНАДЗЕЙНЫХ СПРАВАХ: СВ. ЮДА ТАДЗВУШ



*Іканаграфія прадстаўляе св. Юду Тадэвуша з палкай ці дзідай у руцэ, ад якіх ён, верагодна, атрымаў пакутніцкую смерць, а таксама з абразом Пана Езуса (паводле легенды выявай Хрыста святы аздаравіў караля Абгара ў Эдэсе)*

***Святы з'яўляецца апекуном хворых і працаўнікоў службы аховы здароўя. Ён чувае над паспяховасцю аперацый, спрыяе правільнай дыяпностыцы. Заступаецца за людзей, што маюць прафесіі з высокай ступенню рызыкі, і таму, відавочна, патрабуюць звышнатуральнай апекі. Аказвае падтрымку ў драматычных і небяспечных сітуацыях пажарным, міліцыянерам. Апостал з'яўляецца таксама заступнікам сужэнскага і сямейнага жыцця. Да яго ўзносяць малітвы аб аздараўленні адносін з блізкай асобай, аб ацаленні сужэнства, якое распадаецца.***

***Як блізкі супрацоўнік Хрыста св. Юда Тадэвуш вельмі адказна ставіцца да сваёй місіі і таму з'яўляецца выдатным апекуном. Заўжды заступаецца перад Богам за людзей, якія знаходзяцца ў цяжкіх і бязвыхадных сітуацыях. Таму той, хто з верай моліцца да святога, абавязкова атрымае ў яго дапамогу. І нават калі не здабудзе таго, аб чым просіць, будзе ўзмоцнены Божай ласкай, каб данесці свой крыж да канца.***

### АДЗІН З НАЙМЕНШ ВЯДОМЫХ ВУЧНЯЎ ХРЫСТА

Інфармацыі аб жыцці Юды Тадэвуша не надта шмат. Вядома, што ён нарадзіўся ў яўрэйскай сям'і ў Панеас – горадзе ў Кане Галілейскай, даўняй Палесціне. Узрастаў у той жа мясцовасці, дзе і Хрыстос. Яго бацька, Клеафас, быў братам св. Юзафа, цесляра і апекуна Езуса. Маці, Марыя Клеафасава, – сваячкай Марыі. У Біблії яе называюць сястрой Найсвяцейшай Панны, аднак дапускаецца, што іх сваяцтва магло не быць такім блізкім.

Юда Тадэвуш рос паслухмяным і набожным дзіцём. З маленства ўдзельнічаў з бацькамі ў набажэнствах у сінагозе. Меў дасканалую памяць на малітвы, якія часта запамінаў радок за радком. Як і многія яго сучаснікі, павінен быў стаць фермерам.

Належаў да кола 12-ці Апосталаў. Падчас Апошняй вячэры задаў Езусу пытанне: "Пане, як сталася, што Ты хочаш аб'явіцца нам, а не свету?" (Ян 14, 22). Быў таксама на малітве разам з 10-мі застаўшыміся Апосталамі, Марыяй, а таксама сваякамі і вучнямі Езуса, чакаючы спаслання абяцанага Святога Духа (параўн.: Дз 1, 13).

Далейшы лёс Юды Тадэвуша дакладна не вядомы. Існуюць значныя адрозненні ў захаваных пераказах. Яны датычацца месцаў, у якіх Апостал прабываў, і спосабу заканчэння зямнога жыцця. Сярод тэрыторый яго евангелізацыйнай дзейнасці называюць Палесціну, Сірыю, Месапатамію, Персію, Арменію, Расію, Аравію, Егіпет і Лівію. Паводле адных крыніц, ён памёр натуральнай смерцю, а паводле іншых – мучаніцкай (быў распяты, распілаваны ці закатаваны палкай).

### ЧАМУ МОЖАМ НАВУЧЫЦЦА Ў СВ. ЮДЫ ТАДЭВУША?

Святы з'яўляецца для нас прыкладам сапраўднага вучня Хрыста. Ён даверыўся Езусу поўнасцю, пайшоў за Ім. Увесь час быў са Збаўцам, адкрываючыся на Яго словы і моц. А потым стаў Апосталам, які нясе Добрую Навіну і ласку збаўлення людзям. Рабіў гэта мужна і старанна, заклапочаны лёсам сваёй Айчыны, з верай у Божую дапамогу, ва ўсім праслаўляючы Усемагутнага.

### ЦІКАВА!

Сярод Апосталаў 2-ое мужчын мелі імя Юда: Юда Тадэвуш і Іуда Іскарыёт. Св. Юда меў прозвішча Тадэвуш. Яно значыць тое ж, што "адважны" (Тадэвуш ад арам. "tadda" – смелы). Імя Юда – "годны пашаны" (Юда ад іўр. "jada" – хваліць, дзякаваць).

### З ВУСНАЎ СВЯТОГА

"Але вы, умілаваныя, умацоўвайце сябе на падмурку найсвяцейшай веры вашай і маліцеся ў Духу Святым. Захоўвайце сябе ў любові Божай і чакайце міласэрнасці нашага Пана Езуса Хрыста дзеля жыцця вечнага" (Юд 1, 20–21).

### ЛІТУРГІЧНЫ ЎСПАМІН

Касцёл ушаноўвае памяць св. Юды Тадэвуша 28 кастрычніка. У гэты дзень вернікі, якія памоляцца ля яго рэліквій у базіліцы св. Пятра ў Рыме, могуць атрымаць поўны адпуст (зацверджаны папам Паўлам III у 1548 годзе).

*Кс. Юрый Марціновіч*

# Ружанец з ранніх гадоў



*Марыя дала нам надзейную і эфектыўную абарону ад усякага зла – Ружанец. Таму самым цудоўным падарункам, які бацькі могуць даць свайму дзіцяці, з'яўляецца прывітая пашана і любоў да гэтай малітвы з маленства. Даручаючы жыццё Маці Божай, чалавек гарантавана забяспечвае сабе эфектыўную абарону ад разнастайных пагроз і небяспек.*

*Ружанец быў любімай малітвай св. Яна Паўла II, якой ён навучыўся ад бацькоў. Папа падкрэсліваў: "Калі Ружанец будзе добра прадстаўлены, то, я ўпэўнены, маладыя нярааз здолеюць здзівіць дарослых, адгаворваючы малітву з тыповым для іх узросту энтузіязмам".*

### ЯК ПАЧАЦЬ?

У многіх сем'і Ружанец прыходзіць разам з кастрычнікам. Тады мамы і таты задумваюцца, як увесці дзяцей у гэтую малітву. Штодзённы ўдзел у ружанцовым набажэнстве многія лічаць занадта цяжкім і нудным для малых, якія да гэтага часу не мелі з ім справы. У такой сітуацыі добрым рашэннем можа стаць супольная малітва дома.

Распачніце ад штодзённага адгаворвання аднаго дзясятка. Гэта працягнецца не больш як 5 хвілін. Дзеці могуць прамаўляць першую палову "Ойча наш" і чарговых "Вітай, Марыя", а бацькі – працягваць.

Калі малое ўбачыць, што ўся сям'я кленчыць на супольным Ружанцы, гэта стане для яго чымсьці натуральным. Тады яно без цяжкасцей навучыцца сістэматычнасці і настойлівасці ў малітве.

### УМЕННЕ ЗДАБЫВАЦЬ

Перад пачаткам малітвы варта зрабіць кароткія ўводзіны да таямніцы, а падчас адгаворвання дзясятка – перажываць узгаданую падзею. Добра весці апавяданне пра жыццё Пана Езуса ў цяперашнім часе, каб можна было атаясаміцца з тым, што робіць Хрыстос для кожнага чалавека.

Каб нагляднa наблізіць дзецям таямніцы Ружанца, неабходна выкарыстоўваць простыя і красамоўныя карцінкі. Ілюстрацыі, якія дэманструюць важныя падзеі з жыцця Марыі і Езуса, можна знайсці ў інтэрнэце. Трэба іх раздрукаваць і падрыхтаваць шыльдачку з усімі часткамі Ружанца: у адным радку размясціць Радасныя таямніцы, у чарговым – Таямніцы святла, затым – Балесныя і Хвалебныя таямніцы (кожная таямніца на асобным малюнку).

Штовечар, калі сям'я кленчыць на супольную малітву, дзіця будзе выбіраць адну таямніцу з шыльды, а хтосьці з бацькоў або старэйшыя брат ці сястра – чытаць з Біблії фрагмент, які датычыць дадзенай падзеі. Потым кожны прамовіць сваю інтэнцыю, пасля чаго распачнецца супольная малітва.

### ЧАМУ БЫВАЕ ТАК, ШТО ДЗІЦЯ "ЎЦЯКАЕ" АД МАЛІТВЫ?

Некаторыя дзеці негатыўна ставяцца да адгаворвання Ружанца, таму што ён атаясамліваецца толькі з традыцыйнымі пацерамі, якія не заўсёды ім зразумелыя. Неабходна тлумачыць, што гэта размова з Панам Богам.

Важна таксама знешняя і ўнутраная падрыхтоўка да малітвы. Першая заключаецца ў выбары адпаведнага палажэння цела, рук. Дарэчы, у малітве можна выкарыстаць песню, спалучаную з рухамі ці танцам. Падчас другога моманту, у сваю чаргу, прыгадваем, што Усемагутны зацікаўлены зместам нашай малітвы, таму з пашанай можам пра ўсё Яму расказаць сваімі словамі. Дзіця павінна разумець скіраваныя да Бога звароты і ўкладваць пачуцці ў гэтае пасланне.

*Кінга Красіцкая*



### Зрабі сам: ружанец з салёнага цеста

*Інгрэдыенты:*

- 200 г мукі
- 100 г крухмалу
- 200 г солі
- 150 мл вады

*Прыгатаванне:*

*Перамяшаць муку, крухмал і соль. Затым паступова дадаваць да іх ваду так, каб маса не была занадта клейкая і рэдкая, але стала пластычнай. Мяшаць інгрэдыенты трэба не даўжэй за 10 хвілін. У працэсе можна падфарбаваць масу, дадаючы адзін з натуральных кампанентаў: какао, карыцу, куркуму, папрыку, ягады чарніц.*

*Падчас мадэліравання шарыкаў для пацерак ружанца належыць зрабіць у іх маленькія дзірачкі, перш чым салaная маса высахне. Для фарміравання элементаў можна выкарыстоўваць разнастайныя прылады: нажніцы, нажы, палачкі, зубачысткі і інш. Калі робіце крыжык, што ўвенчвае ружанец, неабходна ў зляпленую мадэль, якая яшчэ не паспела высахнуць, укласці невялікую металічную ці алюміневую пяцельку. Яе можна таксама зрабіць з салянай масы.*

*Вырабы лепш за ўсё сушыць на свежым паветры, паколькі такім чынам забяспечваецца іх лепшая цвёрдасць і трываласць. Высушаныя элементы можна размаляваць фарбамі і пакрыць празрыстым лакам для атрымання большай моцнасці матэрыялу. Напрыканцы пацеркі неабходна нанізаць на раменьчык, шнурок, эластычны правадок ці тоўстую нітку. Ружанец гатовы!*

## Слова для жыцця

### Папа Францішак



*Езус не жадае, каб вучні толькі паўтаралі завучаныя на памяць формулы. Ён прагне сведкаў: людзей, якія абвяшчаюць надзею праз тое, як прымаюць іншых, як усміхаюцца, любяць... Асабліва любяць, таму што сіла ўваскрасення робіць хрысціян здольнымі любіць нават тады, калі здаецца, што любоў згубіла на тое прычыны. Ёсць нешта "большае" ў хрысціянскім жыцці, што немагчыма патлумачыць проста сілай духа ці большым аптымізмам. Не! Наша вера, наша надзея – гэта не толькі аптымізм. Гэта штосьці іншае, штосьці большае. Гэта так, нібы вернікі з'яўляюцца людзьмі з дадатковым "кавалкам неба" над галавой. Як гэта цудоўна! Мы – тыя асобы, якіх суправаджае прысутнасць, што некаторыя не могуць нават адчуць. [...] Сапраўдныя хрысціяне ніколі не з'яўляюцца лёгкімі і зручнымі людзьмі. Іх лагоднасць нельга блытаць з пачуццём няўпэўненасці і падатлівасцю. Св. Павел пабуджаў Цімафея цярпець дзеля Евангелля і казаў так: "Бог даў нам не духа боязі, але сілы, любові і разважнасці" (2 Цім 1, 7).*

*Фрагмент прамовы падчас агульнай аўдыенцыі ў Ватыкане, 04.10.2017*

### Кс. бп Аляксандр Кашкевіч



*Вобраз сатаны, які з апошніх сіл вядзе жорсткую барацьбу супраць вызнаўцаў Бога, на першы погляд можа напалохаць. Аднак трэба памятаць, што гэта ўражваючая іншая, найважнейшая праўда хрысціянскай веры – праўда аб уваскрасенні Хрыста, Пераможцы смерці, пекла і д'ябла.*

*Езус атрымаў ад Бога Айца "панаванне, гонар і каралеўскую ўладу". Гэтая ўлада распаўсюджваецца на ўсе народы, плямёны і мовы. "Улада Ягоная – вечная ўлада, якая не адымецца. І валадарства Ягонае не будзе знішчана" (Дан 7, 14), – гаворыць прарок Даніэль. Менавіта дзякуючы перамозе Хрыста на дрэве крыжа д'ябал пацярпеў канчатковае паражэнне, а брамы Божага Валадарства назаўсёды адкрыліся для тых, хто быў абмыты ў крыві Баранка. Гэтая ісціна, усё ж, не выключае факту, што жыццё тут, на зямлі, з'яўляецца нястомнай барацьбой. Кожны з нас адчувае, як нялёгка накіроўвацца за Езусам, як складана рэалізаваць у жыцці ідэалы Яго Евангелля, як многа каштуе заўсёды і ў кожнай сітуацыі слухацца голасу ўласнага сумлення, пазбягаць зла і выбіраць дабро. Часта чалавек адчувае спакусу пайсці за лёгкасцю, па шляху найменшага супраціўлення, пошуку кампрамісу са злом і абірання фальшывых каштоўнасцей. Аднак у сваім штодзённым змаганні мы не самотныя. Збаўца чалавецтва Езус Хрыстос нястомна падтрымлівае нас сваёй ласкай.*

*Фрагмент гаміліі, прамоўленай падчас асвячэння капліцы ў рэкалекцыйным доме ў Росі, 29.09.2017*

## Лісты чытачоў

***Здаўна захаваўся звычай ставіць на скрыжаванні дарог крыжы-абярэгі, рытуальныя помнікі, капліцы. Старажылы кажуць: "Ні адно распяцце, ні адзін мемарыял не пастаўлены стыхійна. Кожнаму адпавядала нейкая важная падзея ці з'ява...".***

*Сёння, на жаль, не ўсе ведаюць, у сувязі з чым узведзена тая ці іншая святыня, што яна сімвалізуе. А традыцыю ўсё ж трэба шанаваць і захоўваць, перадаючы яе з пакалення ў пакаленне. Гэта фарміруе павагу да гісторыі, культуры, хрысціянскай рэлігіі. Абапіраючыся на каштоўнасці папярэднікаў, мы захоўваем уласную самабытнасць.*

*Наша мясцовасць – аграгарадок Лойкі – таксама адрозніваецца адметнасцю, непаўторнасцю. Насельніцтва па веравызнанні, у асноўным, – католікі. Адзін са старэйшых помнікаў у вёсцы пастаўлены ў 1917 годзе на сродкі, сабраныя тагачаснай моладдзю. Гісторыю яго ўзвядзення распавёў са слоў сваіх продкаў мясцовы жыхар. Ён казаў, што некалі ў вёсцы панавала халера. Страшная хвароба забрала большую палову насельніцтва! Тады ў выбраным месцы – у сярэдзіне вёскі – пачалі збірацца людзі, просячы на супольнай малітве ў Бога ратунку. І хвароба адступіла. На тым месцы вернікі вырашылі пабудаваць помнік у знак глыбокай удзячнасці Усявышняму і як даніну памяці аб загінуўшых земляках. На ім зроблены надпіс: "Ад стыхійных бедстваў, хвароб, голаду і вайны захавай нас, Божа".*

*Ля помніка па традыцыі збіраюцца мясцовыя жыхары. Моляцца, спяваюць песні, у якіх просяць здароўя сабе і блізкім, каб мінулі хваробы, каб людзі жылі мірна і шчасліва. Тут нябожчык нібы развітваецца з вёскай. Хтосьці з родных ці знаёмых памерлага ад яго імя просіць ва ўсіх прабачэння, пасля чаго пахавальная працэсія скіроўваецца на могілкі... Помнік заўсёды дагледжаны, упрыгожаны вянкамі і кветкамі.*

*З нагоды 100-годдзя яго ўсталявання ля мемарыяла была адпраўлена св. Імша, якую цэлебраваў кс. прэлат Вітольд Лазавіцкі. На ўрачыстую літургію сабраліся амаль усе жыхары вёскі. Людзі разам звярталіся да Бога з тымі ж просьбамі, як і ў мінулым: каб абараніў ад няшчасцяў і адарыў супакоем.*

***Мяркую, кожны павінен ведаць свае карані, культуру, традыцыі, звычаі і абрады свайго народа. Гэта дапамагае чалавеку цвёрда стаяць на зямлі і ганарыцца сваім паходжаннем. Такой асобе не сорамна. Такая асоба бачыць каштоўнасць спадчыны, выпакутаванай папярэднікамі.***

*Марыя Храмлюк, аг. Лойкі*




◆ Застаецца яшчэ крыху часу, каб атрымаць поўны адпуст, зацверджаны папам Францішкам у юбілей 100-годдзя аб'яўленняў Маці Божай у Фаціме. Для гэтага трэба наведаць санктуарый (у любой кропцы свету) ды прыняць удзел у цэлебрацыі і малітве да Найсвяцейшай Панны або памаліцца перад фігурай Маці Божай Фацімскай, якая выстаўлена да публічнай малітвы ў касцёле ці ў іншым адпаведным месцы. Неабходна таксама выканаць звычайныя ўмовы: прыступіць да сакраманту пакаяння і паяднання ды да св. Камуніі, а таксама памаліцца ў інтэнцыях Святога Айца. З ласкі Юбілею можна скарыстаць да 26 лістапада бягучага года.

◆ Першая ў свеце каранацыя фрэскі Багародзіцы – Маці Міласэрнасці – адбылася ў касцёле св. Георгія ў Дзержонюве (Польшча). Кароны для гэтай падзеі асвяціў папа Францішак. Урачыстасць узначаліў біскуп Свідніцкай дыяцэзіі Ігнацый Дэц. У гаміліі іерарх заўважыў, што фрэска ўзнікла на гэтых землях 500 гадоў таму. Біскуп заахвоціў вернікаў аднавіць у сабе любоў да Марыі, а таксама захоўваць вернасць Крыжу.

◆ Генеральны пракуратар Лівіі Аль-Садзік ад-Соур паведаміў, што з вялікім праўдападабенствам устаноўлена месца, у якім знаходзяцца астанкі егіпецкіх коптаў, варварскі забітых у 2015 годзе джыхадзістамі "Ісламскай дзяржавы". Ужо распачата праца па эксгумацыі ў брацкай магіле. Копцкі Касцёл ужо прызнаў мучанікаў святымі. Іх літургічны ўспамін адзначаецца 15 лютага – у дзень, калі ў інтэрнэце з'явілася відэа з дэманстрацыяй адсячэння ім галоў. На стужцы чуваць, як у хвіліну забойства мучанікі паўтараюць словы: "Пане Езу Хрыстэ".

◆ Незвычайнае фота зроблена ў Шатландскім прыродным тэматычным парку забаў "Bamboozeleum". Абсталяваная для адпачынку тэрыторыя знаходзіцца ў лесе, забяспечана сістэмай відэаназірання на тэрмакамеру. Сужэнская пара з 2-ма дзецьмі бавіла час на лоне прыроды. Прыбор паказаў, як муж і жонка гуляюць не з 2-ма, а з 3-ма дзецьмі! Малодшае дзіця знаходзіцца ва ўлонні сваёй мамы, але яго ўжо вельмі добра відаць на здымку.

◆ У Іерусаліме дзейнічае заапарк, дзе сабраны амаль усе жывёлы, хоць раз згаданыя ў Біблііі. На сёння ў ім пражывае больш за 2200 асобін: ад сланоў да лемураў, ад маленькіх зялёных мартышак да велізарных пітонаў. Наўрад ці ўдасца знайсці толькі лефіяфана і адзінарога. Садавіну, гародніну і мяса, неабходныя для харчавання жывёл, бясплатна пастаўляюць ізраільскія кампаніі як дзесяціну. Заапарк можна аб'ехаць на экскурсійным цягніку, а таксама абысці пешшу, вывучаючы не толькі фауну, але і флору: у парку растуць дрэвы і хмызнякі, многія з якіх таксама згадваюцца ў Біблііі.

credo.pro; pch24.pl; deon.pl

Ангеліна Пакачайла

# ЛЮБОЎЮ СВАЁЙ МАЦЯРЫНСКАЙ ПРЫГОЖАЯ



● працяг са с. 1

*Вялікія сем'і ў беларускім грамадстве, зрэшты, як і ва ўсім свеце, сёння становяцца сапраўднай рэдкасцю. Таму не дзіўна, што жанчыны, якія адважыліся на нараджэнне 3-іх і больш дзяцей, выклікаюць павагу і захапленне. Да ліку такіх самаадданых матуль можна з упэўненасцю аднесці Леакадзію Данілаўну Мажэйка. Жанчына выгадавала 10-ых дзяцей. А яны, у сваю чаргу, падарылі бабулі 15 унукаў, 16 праўнукаў і 2-іх прапраўнукаў.*

Леакадзія Данілаўна, якой улетку споўнілася 90 гадоў, сустракае ў акуратным, дагледжаным доме ў в. Баранава (дэканат Гродна-Захад).

– Дык гэта Вы выхавалі 10-ых дзяцей? – пытаюся.

– Так, – сціпла адказвае жанчына і пачынае распавядаць гісторыю свайго жыцця. – Я таксама выхоўвалася ў шматдзетнай сям'і. На той час для простых вяскоўцаў гэта, можна сказаць, была норма. Калі сама выйшла замуж, пытанне колькасці дзяцей з мужам Юзафам нават не агаворвалі: колькі Бог дасць! А надарыў Ён нашу сям'ю вельмі шчодра і хлопчыкамі, і дзяўчынкамі. Першынец Казімір нарадзіўся ў 1949 годзе. Потым на свет прыйшлі Данута, Леакадзія, Ян, Марыя, Юзаф, Часлава, Станіслаў, Тэрэза. Апошняя дачушка Ірына нарадзілася ў 1971 годзе. Сказаць, што выхоўваць іх усіх было нялёгка – нічога не сказаць. Але добры Бог і Найсвяцейшая Маці, да якіх я заўсёды звяртаюся ў сваіх малітвах і прашу аб заступніцтве, дапамагалі і ўмацоўвалі нашу сям'ю ў штодзённых клопатах і справах.

Леакадзія Данілаўна ўзгадвае, што адразу пасля шлюбу жылі з мужам у маленькім дамку, трымалі гаспадарку. Цяжка было: трэба і малых гадаваць, і працаваць. Падымацца даводзілася на досвітку, класціся спаць – калі ўжо стаяў змрок.

– Зараз на адно дзіця 7 нянек. Да таго ж, ёсць пральныя машыны, памперсы ды іншыя выгоды. І то маладыя маці скардзяцца, што ім не хапае часу, – гаворыць жанчына. – А нам думкі пра вольны час нават у галаву не прыходзілі! Як пайду на працу ў калгас, дык старэйшыя дзеці застаюцца ў няньках. Самі паядуць, малых пакормяць, па гаспадарцы дапамогуць. Так і гадаваліся.

Калі сям'я папоўнілася дзецьмі, гаспадар задбаў пра новы прасторны дом. Але, прызнаецца Леакадзія Данілаўна, некаторыя аднавяскоўцы глядзелі на іх з асуджэннем. Часам нават кпілі і лічылі дзівакамі.

– Канешне, нашыя заробкі не дазвалялі асаблівай раскошы. Але мы трымалі вялікую гаспадарку, садзілі агарод, і дзеці ніколі не адчувалі сябе ў чымсьці абдзеленымі. Яны заўсёды былі дагледжаныя, чыстыя, акуратна апранутыя… Як кажуць: "Бог даў дзіця, то дасць і на дзіця", – падсумоўвае мая суразмоўца.

На пытанне што галоўнае ў выхаванні Леакадзія Данілаўна адзначае: дысцыпліна, уласны прыклад і вера ў Бога.

– Мы стараліся гадаваць дзяцей у справядлівасці, строгасці і любові. Асабістым прыкладам хацелі зашчапіць у іх працавітасць і стараннасць, каб разумелі каштоўнасць свайго дому, сваю ролю ў сям'і. Вучылі, каб дапамагалі адзін аднаму, каб паважалі людзей. Нікому нічога не трэба было паўтараць па некалькі разоў, бо словы бацькоў успрымаліся як закон. Але ж дзеці ёсць дзеці. Часам гарэзнічалі, то і ў куток даводзілася ставіць, – гаворыць жанчына. – Стараліся сеяць у сэрцах і душах сыноў і дачок зерне веры, хоць гэта было няпроста ў савецкі атэістычны час. З маленства вучылі дзяцей маліцца. Пасля ўпотайкі вадзілі іх у суседнюю вёску на катэхезу і да Першай святой Камуніі. Дзяцей з-за гэтага каралі ў школе, палохалі выключэннем. Мяне выклікалі да дырэктаркі. Але я не стамлялася паўтараць, што вера – самае каштоўнае і святое ў жыцці нашай сям'і, таму ніколі яе не зрачэмся. Упэўнена, што менавіта дзякуючы тым хрысціянскім ідэалам, якія былі закладзены ў душах дзяцей з першых гадоў жыцця, з іх выраслі добрыя, спагадлівыя, шчырыя ды адказныя людзі.

Мая суразмоўца падкрэслівае, што ўсе дзеці аднолькава любімыя. Бацькі нікога з іх не выдзялялі, стараліся кожнага акружыць пяшчотай і клопатам. Можа, таму сыноў і дочак Леакадзіі Данілаўны не трэба лішні раз прасіць наведаць маці і дапамагчы. Хто можа, той і едзе.

– Дзеці і ўнукі мяне часта наведваюць, клапоцяцца пра здароўе, дапамагаюць, дагдядаюць, як могуць, мой сталы век, – з гонарам расказвае жанчына. – З нецярпеннем чакаю кожнага з іх. За ўсіх душа баліць. Думаю: як там у іх справы? ці здаровыя? Самае важнае для мяне – іх шчасце і дабрабыт.

Подзвіг Леакадзіі Данілаўны, якая выгадавала 10-ых дзяцей, дзяржава адзначыла ордэнам "Маці-гераіня". Але галоўнай перамогай, дасягненнем і ўзнагародай свайго жыцця жанчына лічыць любоў, павагу і ўдзячнасць сваіх сыноў і дачок.

*Кінга Красіцкая*



*Дзеці, унукі і праўнукі – частыя госці ў доме Леакадзіі Данілаўны, бо гэта месца, дзе любяць, цэняць і чакаюць*



*Леакадзія Данілаўна з мужам Юзафам і дзецьмі*

*Самыя цёплыя і светлыя ўспаміны ў нас звязаны з мамай, яе дабрынёй, мудрасцю, цярплівасцю, з тым, што яна дала нам не толькі жыццё, але і першыя ўрокі духоўнасці. Таму Дзень маці – гэта цудоўная нагода, каб шчыра падзякаваць сваёй матулі, папрасіць у яе прабачэння, павіншаваць, падарыць кветкі, праявіць клопат і яшчэ раз прызнацца ў сваіх самых лепшых пачуццях.*

# Лікбез для маладых мам

*Жаданне і патрэба быць маці закладзена ў жаночай прыродзе. Варта штодня дзякаваць Богу за дар мацярынства.*

*Усмешка, дотык, цяпло і клопат – гэта для дзіцяці лекі ад усіх бед.*

*Сучасныя мамы больш "прасунутыя". Яны чытаюць розныя кнігі на тэмы выхавання дзіцяці, праводзяць шмат часу на інтэрнэт-форумах у пошуку адказаў на пытанні "што можна / нельга / трэба", "як лепш", раяцца з іншымі бацькамі, купляюць эка-тавары, розныя цацкі, наведваюць развіваючыя цэнтры... Кожная з іх імкнецца быць супер-мамай. Але што ўсё-такі першачаргова ўваходзіць у гэтае паняцце?*

Вядома, любая жанчына марыць быць ідэальнай маці. І таму намагаецца рабіць усё правільна (асабліва калі становіцца мамай упершыню). Але дзіця – гэта не запраграміраваны камп'ютар, а жывая істота, якая нараджаецца са сваім характарам, патрэбамі і жаданнямі. Прадвызначыць жыццё маленькага чалавека немагчыма. У любы момант усё можа пайсці не так, як уяўлялася на прыгожых малюнках, марылася ў ружовых снах. І тады маці можа ахапіць вялікае расчараванне, а разам з ім – пачуццё бяссілля і віны, таму што чаканні не супадаюць з рэальнасцю, а ўсе інструкцыі "як належыць" не заўсёды атрымліваецца выкарыстаць на практыцы.

Не трэба падманвацца, што роля маці зводзіцца да догляду за немаўлём: накарміць, напаіць, апрануць, даць адукацыю. Педыятр і дзіцячы псіхааналітык Дональд Вудс Вінікот акцэнтуе ўвагу на клопаце, які, "акрамя своечасовага задавальнення фізіялагічных патрэб, павінен быць афарбаваны любоўю". Дарэчы, яе ніколі не бывае шмат.

Для дзіцяці вельмі карысныя эмацыянальныя зносіны з маці, яе погляд, усмешка, гаворка. Ад нараджэння немаўля патрабуе, каб з ім размаўлялі, насілі на руках, люлялі, лашчылі, захапляліся, іншым словам – няньчыліся. Многія бацькі думаюць, што гэтым можна разбэсціць дзіця. Але мацярынская пяшчота патрэбна чалавеку ў любым узросце. Для гарманічнага развіцця вельмі важна пачуццё бяспекі. Яно даецца менавіта мамай. Дзіцятка насычаецца мацярынскай любоўю, і калі падрастае, ужо не мае патрэбы ў пастаянным тактыльным сілкаванні.

З часам варта ўключаць дзіця ў сумесную дзейнасць: памыць посуд, спячы печыва, паліць кветкі, сыграць у супольную гульню. Гэта таксама вельмі зблізае эмацыянальна. Галоўнае, не крытыкаваць і не распешваць яго, калі нешта выходзіць не так хутка і добра, як у дарослых. Любіце сваё дзіця любым.

Праводзячы з ім час, радуйцеся, таму што "дзіця – гэта свята, якое пакуль з табой", – гаварыў урач і педагог Януш Корчак. Калі ў мамы атрымліваецца паспяхова ўзаемадзейнічаць з дзіцём, гэта дае ёй пачуццё задавальнення і ўсведамленне ўласнай бацькоўскай кампетэнтнасці. А дзіцяці такія зносіны з мамай дапамагаюць сфарміраваць падмурак для даверу і канструктыўных адносін з навакольным асяроддзем.

Гэта пацвярджае псіхіятр і глыбока веруючы чалавек Рос Кэмпбэл, які ўвёў паняцце "эмацыянальнага рэзервуара", што азначае сукупнасць патрэб, якія задавальняюцца праз любоў, фізічныя дакрананні мамы, а таксама агульную атмасферу ў сям'і. Чым больш запоўнены гэты рэзервуар, тым лепш станоўчыя эмоцыі і паводзіны дзіцяці. "І дай нам Бог знайсці ў сабе сілы задаволіць патрэбы нашых дзяцей у эмацыянальнай ежы", – гаворыць псіхіятр. Маці павінны старацца напаўняць дзяцінства сыноў і дачок клопатам і ўвагай. Чым больш адорваем дзіця станоўчымі эмоцыямі, увагай, цеплынёй, пяшчотнымі абдымкамі і пацалункамі, тым больш яно спакойнае і радаснае.

Пасля ІІ Сусветнай вайны ў выніку страшнай трагедыі засталося шмат дзяцей-сірот. Адкрывалася вялікая колькасць прытулкаў, у якіх былі арганізаваны добрыя ўмовы для таго, каб хлопчыкі і дзяўчынкі, што засталіся без бацькоў, раслі. Аднак многія з іх часта хварэлі, адставалі ў псіхафізічным развіцці, а то і зусім не дажывалі да года. Спачатку меркавалі, што дзецям проста не хапае харчавання. Потым падалося, што ўся справа ў інфекцыі. Праз некаторы час спецыялісты, якія займаліся гэтай праблемай, звярнулі ўвагу на вопыт аднаго з дзіцячых прытулкаў Германіі, дзе працавала няня, што вяртала да жыцця безнадзейных дзяцей. Як жанчыне гэта ўдавалася? Рабіла яна ўсё вельмі проста: прывязвала да сябе дзіця і цэлы дзень з ім не расставалася. Такім чынам маляня заўсёды было побач, што б ні рабіла няня. Яна дарыла яму сваё цяпло, размаўляла з ім, гладзіла па галаве. І паступова дзіця ажывала і ішло на папраўку.

Апісаны выпадак яшчэ раз нагадвае нам пра тое, што ў дзіцяці ёсць жыццёва важная патрэба быць прывязаным да дарослага, які яго даглядае. Наіўна лічыць, што з парушэннем прыхільнасці сустракаюцца толькі дзеці, якія трапілі ў неспрыяльныя ўмовы развіцця. Такое можна назіраць і ў шчаслівых сем'ях. Нават калі ў дзіцяці ўсё ёсць: ад дарагіх цацак да лепшай адукацыі ў свеце, – гэта не паказчык. Дабрабыт дзіцяці залежыць не ад умоў, у якіх ён жыве, а ад адносін блізкіх людзей, з якімі знаходзіцца побач.

Невялікі вопыт мацярынства прывёў мяне да разумення: усё, што цяпер трэба маленькаму дзіцяці, – гэта мая прысутнасць, любоў і спакой. Быць мамай не азначае дасканала валодаць пэўнымі навыкамі. Трэба адпусціць кантроль за тым, што я павінна ўсё рабіць правільна. Маё дзіця – асобны чалавек са сваімі перажываннямі, пачуццямі і эмоцыямі. Важна, каб яно адчувала сябе любімым, прынятым і абароненым, каб ведала, што мае на каго абаперціся. І яшчэ. Я ўпэўнена, што кожная мама – самая лепшая для свайго дзіцяці.

*Вольга Парада,*
*педагог-псіхолаг*

***У сучасным свеце часта навязваецца меркаванне, што калі маеш дзіця, ты павінна цалкам у ім растварыцца. Нарадзіўшы, неабходна без рэшты ахвяраваць сябе на алтар мацярынства. Але трэба не баяцца дазваляць сабе заставацца асобай са сваімі інтарэсамі і патрэбамі. Варта ўсведамляць, што кожная мама мае патрэбу і правы (!) на адпачынак. Ёй, як і ўсім, неабходна аднекуль чэрпаць новыя сілы, аднаўляць свае ўнутраныя рэсурсы. Каму спадабаецца вечна стомленая і раздражнёная жанчына? Выраз "шчаслівая мама – шчаслівае дзіця" цалкам апраўданы. Са старажытных часоў вядома, што псіхалагічны стан маці ўплывае на самаадчуванне дзіцяці і яго далейшае развіццё. Таму клопат пра сябе вельмі важны, бо ён спрыяе будаванню правільных, здаровых адносін з сабой і акружаючымі.***




Catholic.by

### Кенійцы ездзяць на працу ў цягніку-святыні

***Некаторыя з мясцовых жыхароў бяруць з сабой у дарогу Біблію, а іншыя пасажыры адкрываюць яе ў сваіх тэлефонах. Некалькі хрысціянскіх святароў чытаюць у цягніку пропаведзі, а вернікі спяваюць і танцуюць, праслаўляючы Бога.***

*"Мы таксама молімся за хворых і беспрацоўных. Некаторыя людзі потым прыходзяць і расказваюць, што іх жыццё змянілася да лепшага", – адзначае пастыр Майкл Мбога.*

*Святары лічаць, што цягнік – добрая альтэрнатыва стацыянарнай царкве, бо ў многіх вернікаў не хапае часу, каб яе наведваць.*




### Пантыфік прыняў удзел у абедзе з беднымі

***У базіліцы св. Пятронія ў Балоніі сабралася каля тысячы бяздомных, хворых, вязняў, бежанцаў, самотных пажылых людзей, аб якіх клапоцяцца каталіцкія дабрачынныя арганізацыі і парафіі.***

*У прывітальным слове Святы Айцец назваў абед салідарнасці цудоўнай нагодай, каб падзяліцца штодзённым хлебам, якім з'яўляецца не толькі ежа, але таксама Евангелле, Божае слова, якое "ўсе носім у сэрцы, і якое для нас, хрысціян, мае аблічча Езуса". Звяртаючыся да бедных, папа Францішак заўважыў, што Касцёл прагне бачыць іх у цэнтры свайго жыцця.*

*Абед арганізавала балонскае аддзяленне "Карытас".*




### Магіла св. Мікалая знойдзена?

***Археолагі сцвярджаюць, быццам натрапілі на яе ў турэцкім гарадку Дэмрэ. Да гэтага часу лічылася, што парэшткі святога знаходзяцца ў Італіі.***

*Мястэчка Дэмрэ пабудавана на руінах горада Міра, што лічыцца месцам дзейнасці св. Мікалая. У працэсе даследаванняў вучоныя адкрылі некранутую святыню і месцы пахавання пад ёй. Каб дабрацца ўнутр, неабходна выдаліць частку падлогі, на якой знаходзіцца мазаіка. "Калі нам удасца гэта зрабіць, магчыма, адшукаем там захаванае цела святога", – спадзяюцца даследчыкі.*

*Кінга Красіцкая*

# СІЛА ЎРАЧА – У ЯГО ЛЮБОВІ ДА ЧАЛАВЕКА

● працяг са с. 1

*Звычайна дыягназы ставяць урачы. Сёння прапануем чытачам “Слова Жыцця” памяняцца з дактарамі месцамі, накінуць на плечы белыя халаты і зрабіць сумесны анамнез з жыццёвых гісторый медыкаў.*




*Валянціна Казленка заўсёды прыслухоўваецца да закліку сэрца. Таму і падалася пасля школы ў медыцынскі каледж, хоць за добрую вучобу магла быць залічана без экзаменаў у педагагічны. “Мама вельмі хацела, каб я была настаўніцай, а мая душа прагнула дапамагаць церпячым”, – успамінае жанчына.*

*З першай спробы паступіць не ўдалося. Але маладая дзяўчына не адчайвалася і прыклала максімум намаганняў, каб дасягнуць пастаўленай мэты ў наступны раз. Усё атрымалася. Пасля вучобы Валянціна непрацяглы час працавала медсястрой у гомельскай бальніцы. “Хворыя людзі часта нервовыя, раздражнёныя, нецярплівыя. І тут не месца для грэбавання ці гідлівасці, – заўважае. – Трэба ўсведамляць, што церпячыя з-за пакут і болю часам не кантралююць свой стан і могуць адрозніваўца непрадказальнымі паводзінамі. Таму да іх патрэбны асаблівы падыход: найперш, чалавечнасць, чулае і добрае сэрца. Гэтыя якасці вострa неабходныя ў адносінах з пацыентамі. Многім не стае ўвагі, клопату з боку родных, блізкіх. Многія адчуваюць сябе пакінутымі. У нашых сілах дадаць у іх жыццё крышачку спагадлівасці і пяшчоты. Думаю, кожны медык павінен памятаць пра тое, што яго служэнне базіруецца на падмурку міласэрнасці. Варта ў любым чалавеку ўмець бачыць Хрыста…”.*

*Неўзабаве спадарыня Валянціна выйшла замуж і прысвяціла сябе сям’і. Нарадзіла 6-ых (!) дзяцей: 5-ых сыноў і дачку. “З Божай дапамогай”, як зазначае. Па медыцынскіх паказаннях магла мець толькі 2-іх (іначай рызыкавала сваім жыццём). Але ва Усявышняга няма нічога немагчымага. Зараз старэйшаму 28 гадоў, малодшаму хутка споўніцца 13.*

*Сям’я жыве ў Ваўкавыску. Трымае агарод і гаспадарку. Жанчына больш не працуе ў сістэме аховы здароўя, але даглядае за хворай мамай, робіць уколы суседзям, знаёмым, якія прыходзяць да яе на дом. “Штодня дзякую Богу за жыццё, за акружаючых людзей, за тое, што магу быць карыснай, – падкрэслівае спадарыня Валянціна. – Часта іду са сваімі інтэнцыямі ў пілігрымках”.*

*Жанчына ўспамінае, што ўпершыню вырушыла ў дарогу па просьбе сына. Аднаго 8-гадовага хлопца адпускаць не хацела, таму адправілася ў Тракелі разам з ім. Узгадвае, што напрыканцы шляху адчула вялікую Божую ласку. З таго часу імкнецца не прапускаць паломніцтвы, якія напаўняюць душу невымоўнай радасцю і спакоем. “Я зрабіла для сябе выснову: калі Бог на першым месцы, то і ўсё астатняе на сваім месцы”, – гаворыць спадарыня Валянціна.*

*Мінула 13 гадоў, а жанчына па-ранейшаму ў першых шэрагах пілігрымаў. Толькі цяпер у яе заплечніку заўсёды мноства медыкаментаў, перавязачны матэрыял. У дарозе жанчына за фельчара. Да яе ідуць з мазалямі, расцяжэннямі, недамаганнямі. “Часам чалавеку трэба аказаць і маральную падтрымку, каб далейшы шлях не здаваўся такім цяжкім. Імкнуся падбадзёрыць добрым словам, усмешкай”, – заўважае спадарыня Валянціна. Прызнаецца, што кожны раз збіраецца ў шлях з пачуццём, што яна патрэбна. У паломніцтве бачыць ахвяру. А як прыемна, калі на вуліцы вітаюцца, дзякуюць за дапамогу, запэўніваюць у сваёй малітве!*

*Спадарыня Валянціна дзеліцца марай, што хацела б схадзіць у Будслаў. Але летам, у сезон нарыхтовак, немагчыма выбрацца ў 2 пілігрымкі адразу. Таму пакуль што гэта толькі родныя Тракелі… Але пакуль што! Мары існуюць на тое, каб спраўджвацца.*

● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ●

*Андрэй Аслаўскі працуе хірургам у Гродне, выкладае ў медуніверсітэце. Пайшоў па слядах бацькоў, якія таксама медыкі: маці – тэрапеўт, бацька – гінеколаг. “У мяне і жонка ўрач. Тэрапеўт! – распавядае спадар Андрэй. – Пазнаёміліся яшчэ ў студэнцкія гады. З аднаго боку, добра, калі ў сям’і субраты па прафесіі. Ніхто лепш не зразумее медыка, як іншы медык. Вось вяртаюся дадому як выціснуты лімон, і жонка гэта ведае, бо сама ў такім жа стане. А з другога боку – цяжка. На працы цалкам прысвячаешся пацыентам. Эмацыянальна выгараеш, з-за чаго цябе не заўсёды хапае на сям’ю. Канешне, трэба ўмець балансаваць, але дзе ўзяць на ўсё сілы?..”.*




*Вельмі важна любіць сваю прафесію. Без любові ні ў адной справе нічога талковага не атрымаецца. Гэтую ісціну спадар Андрэй і імкнецца данесці сваім студэнтам. Па яго словах, тых, хто прыйшоў “па разліку”, чакае расчараванне, бо часта праца медыка, на жаль, няўдзячная.*

*“Прафесія ўрача цяжкая. Патрабуе мужнасці, цярплівасці, ураўнаважанасці, упэўненасці, – падкрэслівае спадар Андрэй. – Доктар ніколі не павінен адчайвацца, нават калі перад ім безнадзейна хворы чалавек. Галоўнае – не апускаць рукі і да апошняга змагацца за жыццё пацыента. Дарэчы, быў у маёй практыцы выпадак, калі ўдалося «выцягнуць» безнадзейна хворую жанчыну. І па сёння яна жыве і цудоўна сябе адчувае”.*

*У прыватнай размове мужчына прызнаецца, што гэта не адзіны падобны выпадак. І калі даводзіцца сутыкацца са, здавалася б, бязвыхаднай сітуацыяй, “толькі вера і ратуе”.*

*У холе бальніцы, дзе працуе спадар Андрэй, вісяць вялікія партрэты св. евангеліста Лукі і св. Лукі Крымскага, які быў хірургам. Штораніцы ўрач моліцца праз іх заступніцтва. Доктар сціпла заўважае, што яго духоўнае жыццё абмяжоўваецца адмаўленнем ранішняй і вячэрняй малітваў. Насамрэч, у ходзе далейшай бяседы высвятляецца, што ў сям’і гадуецца 3-ое сыноў. І ўсе яны выхоўваюцца ў духу каталіцкага скаўтынгу. Мужчына з’яўляецца дапаможным шэфам у адной з галін руху. Яго жонка спявае ў касцёльным хоры, уваходзіць у Апостальства вечнай малітвы за святароў “Маргарытка”. Усе разам выязджаюць у шматлікія пілігрымкі, каб “адпачыць з Богам”. “Я яшчэ толькі іду да Пана, – гаворыць спадар Андрэй. – Крок за крокам. Прыпыняюся, сузіраю, аналізую, усведамляю нейкія рэчы і намагаюся выправіцца. У гэтым плане я арыентуюся на жонку. Яна для мяне – узор рэлігійнай дасканаласці”.*

*Спадар Андрэй згаджаецца, што яго прафесія – гэта супрацоўніцтва з Богам у справе ратавання людзей. Неаднойчы ён назіраў, як невылечная хвароба ці, наадварот, цудоўнае ацаленне прыводзілі чалавека да Усявышняга. А колькі радасці адчувае доктар, калі пацыент выздараўлівае! Гэта тое, дзеля чаго ён працуе. “Перажываеш духоўны і фізічны пад’ём, натхняешся на далейшыя справы – і твае сілы памнажаюцца стакроць”, – дзеліцца спадар Андрэй і задуменна ўсміхаецца.*

● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ● ●




*Вікторыя Гурская прагне стаць урачом з дзяцінства. Вялікую ролю ў выбары прафесіі адыграла маці дзяўчыны, якая таксама працуе ў сістэме аховы здароўя. “Часта прыходзіла да мамы ў бальніцу і назірала, як яна лечыць пацыентаў, – успамінае Вікторыя. – Пранікласся гэтай дзейнасцю. Захацелася таксама дапамагаць людзям”.*

*Сёння дзяўчына вучыцца ў медуніверсітэце. Пакуль што толькі мае магчымасць назіраць за хворымі. Курыруе палаты, разам з доктарам прысутнічае на абходзе. Цікавіцца самаадчуваннем пацыентаў, слухае сэрца, вымярае ціск. “Людзі звычайна прыходзяць да ўрача, калі ім дрэнна, балюча, – разважае Вікторыя. – І ты павінен выслухаць і зразумець пацыента, каб яму дапамагчы. Пры гэтым варта ўсведамляць, што кожны чалавек індывідуальны. Да кожнага аднолькава неабходны душэўны і трапяткі падыход. Хворага ж лечаць не толькі медыкаментамі, але і словам. Неабходна адчуваць любоў да бліжняга. Яшчэ больш узмацняе гэтую любоў вера ў Бога”.*

*Для дзяўчыны рэлігія ў жыцці займае вельмі важнае месца. Яна рэгулярна прымае ўдзел у Эўхарыстыі. Штогод ходзіць у пілігрымкі. Была ў Тракелях, Будславе і нават Фаціме. З вялікім задавальненнем удзельнічае ў сустрэчах моладзі ў катэдральным касцёле ў Гродне. Імкнецца выкарыстаць любую магчымасць, дзе можна пачуць пра Бога і паглыбіць свае рэлігійныя веды.*

*“Зараз у медыцынскай практыцы маецца нізлічоная колькасць выпадкаў, якія нельга растлумачыць выключна з навуковага пункту гледжання. Бог асцярожна праяўляе Сябе… – заўважае Вікторыя. – Кожны сам вырашае: верыць у вышэйшую сілу ці не. Але, трэба заўважыць, вера для медыкаў не пад забаронай, як было некалі”.*

*Па словах дзяўчыны, урач, як святар, павінен захоўваць чужую таямніцу. Да гэтага абавязвае лекарская прысяга – клятва Гіпакрата. І, як святар, у любы час дня і ночы ўрач павінен быць гатовы аказаць патрабуючаму дапамогу. Іначай які з цябе спецыяліст?*

*У дадзены момант Вікторыя вучыцца на 6-м, заключным курсе медуніверсітэта. Хутка прыйдзецца ўзняць ветразі і адправіцца па вірлівым моры свайго паклікання. Дзяўчына мае адважны настрой і, што важна, высакародную мэту – дапамагаць людзям. “Насамрэч, вельмі страшна, бо мала вопыту, – прызнаецца Вікторыя. – Але ўсё наперадзе! Спадзяюся, шмат чаму яшчэ навучуся. Мне здаецца, што галоўнае – любіць справу, якой займаешся, і тады абавязкова ўсё атрымаецца…”.*

*Ангеліна Пакачайла*



### *Чаму не ўсе хрысціяне ўшаноўваюць Маці Божую?*

*У хрысціянстве доўгі час ніхто не сумняваўся ў слушнасці ўшанавання Марыі як Найсвяцейшай Маці і Заступніцы. Толькі ў V ст. прадстаўнікі нестарыянства паставілі пад сумнеў тытулы “Багародзіца” і “Маці Божая” (пазней гэта было прызнана Касцёлам як ерась – **заўв. рэд.**). Паводле іх меркавання, Марыя нарадзіла Езуса не як Сына Божага, а толькі як чалавека. Разважанне над гэтым пытаннем у кантэксце даследаванняў прыроды Хрыста (наколькі Ён Бог, а наколькі Чалавек) прывяло да афіцыйнага тлумачэння Паўсюднага эфескага сабору (431 г.), які пацвердзіў слушнасць веры хрысціян у тое, што Езус ва ўсёй паўнаце Бог і Чалавек адначасова, непадзельна, і такім Ён нарадзіўся ад Марыі. У сувязі з гэтым Сабор прызнаў слушнасць традыцыйнага (ужо тады – у IV–V стст.!) тытулу Марыі – “Багародзіца” (параўн.: Дакументы эфескага сабору, № 250-251).*

*Калі ў XV–XVI стст. узнік пратэстанцкі рух, яго тагачасныя лідэры выступілі з ідэяй “новага” хрысціянства. Не жадаючы разумець розніцу паміж ушанаваннем і пакланеннем, яны прыраўнялі культ святых (разам з імі і Марыі) да язычніцкага ідалапаклонства. Але асноўнай прычынай гэтага было поўнасцю перавернутае (фактычна адкінутае) разуменне святасці, замененае на вучэнне аб прабачэнні (апраўданні).*

*Паводле традыцыйнай хрысціянскай веры (каталіцкай і праваслаўнай), святасць – гэта дасканаласць, дасягнутая ў працэсе ўзрастання ў адносінах з Богам, у выніку чаго адбываецца якасная перамена чалавека на глыбінным узроўні, які закранае асновы быцця. Пры ўзнікненні пратэстанцкага руху ў аснову яго веры быў закладзены своеасаблівы “юрыдычны падыход” у адносінах з Богам. Адкінута патрэба ўзрастання ў святасці. Замест яе абвешчана неабходнасць апраўдання ў вачах Бога праз акт індывідуальнага прыняцця Божага прабачэння. У такой дактрыне не патрэбны святыя, няма неабходнасці ў памочніках ці пасрэдніках, бо ўсё зводзіцца толькі да акту прыняцця прабачэння на ўзроўні “я – Бог” (“вінаваты – Суддзя”). Той, хто прабачаны, больш нічога не патрабуе, бо мэта – апраўданне. Той, хто апраўданы, “святы”, дасягнуў нейкага аптымальна неабходнага ўзроўню. Ён не мае патрэбы ў працы над адносінамі з Богам, у нейкіх намаганнях дзеля глыбіннай перамены свайго “я”, пошуку дадатковай успамогі ад найдасканалейшых душ (святых) з паза зямнога жыцця.*

*Менавіта разуменне вучэння аб святасці (дасканаласці) і прабачэнні (апраўданні) закранае сутнасць праблемы: чаму пратэстанцкія супольнасці адкідваюць неабходнасць у заступніцтве святых, у тым ліку Марыі.*

*Кс. Андрэй Рылка,*
***паводле ave-maria.by***

## НАВІНЫ



**Новы рэкалекцыйны дом, прыезд прадстаўніка супольнасці Тэзэ і фінішныя акорды перэгрынацыі фацімскай фігуры**

Вялікай падзеяй для дыяцэзіі стала асвячэнне біскупам Гродзенскім Аляксандрам Кашкевічам рэкалекцыйнага дома "Міласэрнасць" пры санктуарыі Езуса Журботнага ў Росі (Ваўкавыскі дэканат). Па словах кусташа кс. Чэслава Паўлюкевіча, будаўніцтва "духоўнага санаторыя" заняло прыблізна 5 гадоў. "Ён востра неабходны ў гэтым месцы. На летніх духоўных практыкаваннях, якія праводзяць вядомыя рэкалекцыяністы, звычайна збіраецца да 5-ці тысяч чалавек", – заўважае святар. І дадае, што ў планах стварыць у інтэрнэце старонку, дзе будзе змяшчацца ўся актуальная інфармацыя з жыцця санктуарыя. Як бачым, для верніка, які вырашыў аднавіць свае адносіны з Богам, у Росі арганізоўуюцца ўсе належныя да гэтага ўмовы.

У ліку важных падзей быў таксама прыезд у Гродна брата Жана-Даніэля з экуменічнай супольнасці Тэзэ. У горадзе яго радасна вітала моладзь з душпастырства студэнтаў і старэйшай моладзі "OPEN". Маладыя людзі на чале з духоўным кіраўніком супольнасці кс. Антоніем Грэмзам запрасілі госця ў касцёл Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі, каб разам прыняць удзел у Эўхарыстыі і памаліцца ў духу Тэзэ. Пасля адбылася прыватная сустрэча, падчас якой брат запрасіў маладых людзей прыняць удзел у 40-й Еўрапейскай сустрэчы моладзі, якая пройдзе на рубяжы каляндарнага года ў швейцарскім Базэлі, а таксама распавёў шмат цікавага з побыту экуменічнай супольнасці.

Здаецца, яшчэ нядаўна распачалася дыяцэзіяльная перэгрынацыя фігуры Маці Божай Фацімскай. Але час праляцеў хутка – і яна ўжо набліжаецца да свайго фіналу. Пасля наведвання 14-ці дэканатаў фігуру сустрэлі ў парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне. У бліжэйшы час яна наведае апошнія ў маршрутным лісце парафіі дэканатаў Гродна-Усход і Гродна-Захад. Перэгрынацыя завяршыцца ўрачыстай літургіяй у катэдральнай базіліцы св. Францішка Ксаверыя 22 кастрычніка, пасля чаго фігура Маці Божай Фацімскай застанецца ў галоўнай святыні дыяцэзіі.

## З ЖЫЦЦЯ МАНАСКІХ СУПОЛЬНАСЦЕЙ



Ордэн Братоў Меншых Канвентуальных (фрынцысканцаў) прыняў у свае кола ўраджэнца Гродна. Бр. Павел Марыя Расілевіч склаў у Івянцы на рукі айца дэлегата вечныя манаскія абяцанні. У прысутнасці вернікаў, Касцёла і духоўных улад манах дэклараваў, што хоча жыць у чыстасці, убогасці і паслухмянасці па прыкладзе св. Францішка, наследуючы аскетычныя ідэалы заснавальніка супольнасці.

Юбілей 25-годдзя служэння ў Беларусі адзначылі сёстры з Кангрэгацыі Дачок Марыі Успамогі Хрысціян (салезіянкі). Праца сясцёр у краіне распачалася ў 1992 годзе ў Смаргоні. Сёння там служаць 4 манахіні. Прадстаўнікі кангрэгацыі прысутныя таксама ў Мінску.

Напярэдадні халадоў Таварыства св. Францішка Сальскага (салезіяне) правяло дабрачынную акцыю, у выніку якой дзеці са шматдзетных і малазабяспечаных сем'яў з Наваельні і Жупран (Дзятлаўскі і Ашмянскі дэканаты) атрымалі зімовы абутак. Падобная ініцыятыва праводзіцца салезіянамі не ўпершыню. Перад гэтым рэлігійная місія дапамагла школьнікам з набыццём неабходных прылад перад пачаткам навучальнага года.

## ПРЫЗНАЧЭННІ



У склад катэдральнага капітула Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Казіміра Каралевіча прызначаны 2 новыя ганаровыя канонікі. Па рашэнні біскупа Гродзенскага Аляксандра Кашкевіча імі сталі кс. д-р Раман Рачко, рэктар Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне і дырэктар Рэлігійнай місіі "Дабрачыннае каталіцкае таварыства Карытас" Гродзенскай дыяцэзіі, і кс. д-р Здзіслаў Вэдэр SDB, які апошнія 2 гады служыў духоўным айцом у гродзенскай ВДС.

Змены адбыліся і ў дыяцэзіяльнай курыі. На пасадзе канцлера кс. прэлата Антонія Ханько змяніў кс. д-р Аляксандр Мацкевіч, які да гэтага часу быў натарыусам Гродзенскай курыі.

Дэкрэтам ардынарыя зацверджаны новыя пробашчы ў парафіях Ваўкавыскага і Дзятлаўскага дэканатаў: кс. Юрый Канапелька – у парафіі св. Міхала Арханёла ў Поразаве, кс. Андрэй Пышынскі – у парафіі св. Яна Хрысціцеля ў Мсцібаве, кс. Валерый Спірыдон – у парафіі Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса ў Рандзілаўшчыне.

## БІСКУПСКІЯ ВІЗІТАЦЫІ



Біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч здзейсніў кананічныя візітацыі парафій Божай Міласэрнасці і Святой Сям'і ў Лідзе. Па традыцыі іерарх супольна памаліўся з мясцовымі вернікамі, сустрэўся з прадстаўнікамі душпастырскіх, малітоўных груп і ўзначаліў Эўхарыстыю, падчас якой удзяліў парафіянам пастырскае благаслаўленне.

Падчас наведвання касцёла св. Яна Хрысціцеля ў Воўпе (Мастоўскі дэканат) ардынарый асвяціў фігуру Езуса Міласэрнага, якую плануецца змясціць звонку святыні. Днём пазней іерарх пабываў у парафіі св. Міхала Арханёла ў Смаргоні, дзе асвяціў новы абраз у галоўным алтары, стацыі Крыжовага шляху і парафіяльную кавярню ў моладзевым араторыі.

## АДНЫМ РАДКОМ

• На 1-шы курс катэхетычных курсаў пры Аддзеле навучання і выхавання Гродзенскай курыі залічаны 10 чалавек. • Самы старэйшы святар Беларусі кс. прэлат Юзаф Трубовіч адзначыў 61-ую гадавіну прэзбітэрскага пасвячэння. • Дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Юрый Касабуцкі ўдзяліў вернікам парафіі Маці Божай Анёльскай у Гродне сакрамант канфірмацыі. • Вернікі з Сапоцкіна прынялі ўдзел у Архідыяцэзіяльным дні Эўхарыстыі ў Сакульцы (Польшча), дзе маліліся ў інтэнцыі парафіяльнай супольнасці і ўсёй Гродзенскай дыяцэзіі.

*Агляд навін падрыхтаваны на аснове інтэрнэт-старонкі **grodnensis.by.***

*Ангеліна Пакачайла*

## АНОНСЫ

### ТЭАТР ІМЯ СВ. ЯНА ПАЎЛА ІІ АДЗНАЧЫЦЬ 10-ГОДДЗЕ СВАЙГО ІСНАВАННЯ

**Урачыстасці з нагоды юбілею адбудуцца 21 кастрычніка ў парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне (Дзевятоўка).**

*У межах святкавання будзе адпраўлена св. Імша (у 17.00), пасля якой пройдзе тэатральная вечарына.*

### "КАРЫТАС-ГРОДНА" ЗАПРАШАЕ НОВЫХ ВАЛАНЦЁРАЎ!

**"Калі маеш хвіліну вольнага часу і вялікае жаданне чыніць дабро, калі хочаш рэалізаваць сваю веру, дапамагаючы бліжняму ў патрэбе, прыходзь да нас і ўключыся ў вялікую справу нясення дапамогі чалавеку", – заклікаюць супрацоўнікі Дабрачыннага каталіцкага таварыства "Карытас" Гродзенскай дыяцэзіі.**

*Больш інфармацыі пра далучэнне да валантарыяту можна атрымаць па тэлефоне: (8 0152) 75-34-12 – Наталля, каардынатар валанцёраў.*

### ДУХОЎНЫЯ ПРАКТЫКАВАННІ АДБУДУЦЦА Ў ОРШЫ

**Мерапрыемствы, накіраваныя на паглыбленне веры і ўдасканаленне рэлігійных ведаў, пройдуць у мясцовым рэкалекцыйным доме па адрасе: вул. Савецкая, 6.**

Біблійны курс "Эмаус" – вывучэнне Святога Пісання
***27–29 кастрычніка (запіс трывае да 25 кастрычніка)***

"Закхей" – малітоўная сустрэча для школьнай моладзі (ад 14-ці гадоў)
***30 кастрычніка – 1 лістапада (запіс да 27 кастрычніка)***

"Вінаграднік" – малітоўна-фармацыйная сустрэча
***11 лістапада (запіс да 9 лістапада)***

Курс "Эстэра" – рэкалекцыі для жанчын
***17–19 лістапада (запіс да 15 лістапада)***

*Для запісу на курсы і рэкалекцыі, а таксама па іншых пытаннях звяртацца па тэлефоне: (8 029) 713-02-33, а. Аляксандр Жарнасек МІС.*

### ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНАЯ СУСТРЭЧА ЧЛЕНАЎ ЖЫВОГА РУЖАНЦА ПРОЙДЗЕ Ў КАПЦЁЎЦЫ

**Спатканне адбудзецца ў санктуарыі Маці Божай Яснагорскай, Цярплівa Слухаючай, на Узгорку надзеі 28 кастрычніка. Запрашаюцца святары, кансэкраваныя асобы, адказныя і ўдзельнікі ружанцовага малітоўнага руху.**

**Праграма**

11.00 – прывітанне;
– выстаўленне Найсвяцейшага Сакраманту (магчымасць прыступіць да споведзі);
– Ружанец (Балесныя таямніцы);
– перапынак;
12.15 – канферэнцыя на тэму "Моц ружанцовай малітвы ў святле фацімскіх аб'яўленняў";
13.00 – Крыжовы шлях;
14.00 – св. Імша;
15.00 – абед, заканчэнне сустрэчы.

*Аб удзеле ў спатканні неабходна загадзя паведаміць кс. Міхалу Ластоўскаму, дыяцэзіяльнаму мадэратару Колаў Жывога Ружанца Гродзенскай дыяцэзіі і кусташу санктуарыя ў Капцёўцы па тэлефоне: (8 029) 116-87-26.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**20 кастрычніка 1982 г.** – кс. Часлаў Янкоўскі, *проб. Мінойты;*
**22 кастрычніка 1961 г.** – кс. Ян Жыткевіч, *проб. Квасоўка;*
**24 кастрычніка 1967 г.** – кс. Іналіт Ядкоўскі, *проб. Воўпа;*
**25 кастрычніка 1993 г.** – кс. Ян Адамовіч, *проб. Краснае, Мінск–Цудзенішкі.*

## Каляндар падзей

***18 кастрычніка***
*Свята св. евангеліста Лукі, заступніка службы аховы здароўя. Молімся ў інтэнцыі ўрачоў, медсясцёр, а таксама працаўнікоў бальніц і хоспісаў.*

***22 кастрычніка***
*Сусветны дзень місій. Заахвочваем да малітвы ў інтэнцыі ўсіх місіянераў.*

***28 кастрычніка***
*Свята свсв. Сымона і Юды Тадэвуша, Апосталаў.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***"Сімвал веры"***
*Тэлеперадача аб рэлігійным жыцці Гродзенскай дыяцэзіі. Выходзіць пры супрацоўніцтве Каталіцкай тэлестудыі Гродзенскай дыяцэзіі і дзяржаўнага тэлебачання на тэлеканале "Беларусь–4".*
***Чарговы выпуск – 5 снежня.***

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.; у 20.00 і 6.20 на спадарожніку "Eutelsat Hotbird 13" на канале "Radio Vaticana Telepace". Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё. У інтэрнэце на старонцы vatican.by.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Кастрычнік***

*Аб росквіце ружанцовай малітвы і супольнасцей Жывога Ружанца ў Гродзенскай дыяцэзіі.*

*Аб дары плённай перэгрынацыі фігуры Маці Божай Фацімскай у дыяцэзіі і аб добрай падрыхтоўцы да дыяцэзіяльнага сінода.*




Склад “ма” – самы просты з таго, што можа вымавіць немаўля. І слова “мама” з’явілася, як мяркуюць, з паўтарэння дадзенага склада. Магчыма, гэта было першым словам усяго чалавецтва. Ад яго і да таго падобных “дзіцячых” слоў пачалася ў глыбокай старажытнасці наша мова.

Мама – галоўны чалавек у жыцці нованароджанага. Яна праводзіць з немаўлём шмат часу, клапоціцца пра яго, выхоўвае. З маленства жанчына апекуецца сваім дзіцём як анёл. Аб гэтым нам распавядае наступная гісторыя…

## Чаму слова “мама” з’яўляецца галоўным і самым дарагім?





**За дзень да свайго нараджэння дзіця спытала ў Бога:**

**– Кажуць, заўтра мяне адправяць на зямлю. Як жа я, такі малы і безабаронны, буду там жыць?**

**Бог адказаў:**

**– Я падару анёла, які паклапоціцца пра цябе.**

**Дзіця задумалася. Пасля заўважыла:**

**– Тут, на нябёсах, я толькі смяюся і спяваю. Гэтага мне дастаткова для шчасця…**

**Бог перапыніў:**

**– Твой анёл будзе спяваць і ўсміхацца для цябе. Адчуеш яго любоў і будзеш шчаслівы.**

**– О! Але як зразумею яго? Я ж не ведаю яго мовы? – спытала дзіця, пільна глядзячы на Бога.**

**– А што мне рабіць, калі я захачу звярнуцца да Цябе?**

**Бог пяшчотна дакрануўся да галавы дзіцяці і сказаў:**

**– Анёл складзе твае рукі разам і навучыць маліцца.**

**Затым дзіця спытала:**

**– Я чуў, што на зямлі ёсць зло. Хто абароніць мяне?**

**– Твой анёл абароніць цябе, нават рызыкуючы ўласным жыццём.**

**– Мне сумна, бо я не змагу больш бачыць Цябе...**

**– Анёл раскажа табе пра Мяне ўсё і пакажа шлях, як можна сюды вярнуцца. Таму Я заўсёды буду побач.**

**У гэты момант з зямлі сталі даносіцца галасы, і дзіця паспешна спытала:**

**– Божа, скажы мне, як завуць майго анёла?**

**– Яго імя не мае значэння. Ты будзеш называць яго проста – мама.**

Для кожнага мама з’яўляецца анёлам на зямлі, якога вызначае Бог, каб мы не былі самотнымі.

*С. Вераніка Блізнюк FMA*

## Заданне:

**не забудзь павіншаваць матулю з Днём маці, зрабі ёй штосьці прыемнае і асабліва памаліся за яе да Нябеснай Маці.**

**Чакаем Тваіх “чаму”, якія можаш дасылаць на адрас рэдакцыі.**

На пытанні заўсёды гатовыя адказаць салезіянкі са Смаргоні.

# Ад шчырага сэрца

**Паважанаму Ксяндзу Прэлату Яраславу Грынашкевічу**

з нагоды Юбілею ад шчырага сэрца жадаем усіх ласкаў ад Пана. Няхай Божае слова, якое Вы абвяшчаеце, і Эўхарыстыя, якую цэлебруеце, будуць штодзённым спажыткам для вернікаў і прывядуць іх у Нябеснае Валадарства. Няхай здароўе будзе моцным, радасць – штодзённай, у душы пануе супакой, а твар раз’ясняецца цёплай усмешкай.

*З павагай, рэдакцыя “Слова Жыцця”*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Сасноўскаму**

з нагоды 20-годдзя святарскіх пасвячэнняў жадаем шчодрага плёну, сіл і стойкасці ў нялёгкай душпастырскай паслузе. Няхай Вам спадарожнічаюць добрае слова і зычлівасць людзей. Маці Божая няхай аберагае ад няшчасцяў, а Святы Дух натхняе на вялікія справы. Некалі Усемагутны запаліў у Вашай душы агеньчык і паклікаў за сабою. Заставайцеся верныя свайму святарскаму доўгу!

*Працаўнікі рэдакцыі*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Звяжынскаму**

з нагоды 18-годдзя святарскіх пасвячэнняў перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Езус Хрыстус, якога трымаеце ў сваіх руках, блаславляе кожны дзень жыцця, Маці Божая ахінае любоўю і апекай, а Святы Дух падтрымлівае ў выкананні душпастырскай паслугі. Жадаем моцнага здароўя, супакою, радасных дзён і добразычлівых людзей побач. Удзячныя Пану Богу за тое, што сустрэлі на сваім шляху такога цудоўнага душпастыра. Нізкі паклон Вашай маме за сына святара.

*З малітвай і павагай, апостальскі рух “Маргарытка”, вернікі з касцёла ў Варнянах і капліцы ў Вароне*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Пышынскаму**

з нагоды Дня нараджэння жадаем здароўя, стойкасці ў душпастырскай працы, апекі Маці Божай і людской добразычлівасці. Няхай кожны дзень святарскай паслугі прыносіць цудоўны плён, радасць і задавальненне, а міласэрны Бог адорвае Вас сваімі ласкамі. Шчасці Божа!

*Удзячныя парафіяне з касцёла св. Яна Хрысціцеля ў Мсцібаве*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юзафу Багдзевічу**

з нагоды Дня нараджэння і 20-годдзя святарскіх пасвячэнняў жадаем моцнага здароўя, сіл, стойкасці, дароў Святога Духа і апекі Маці Божай на доўгія гады душпастырскай паслугі. Няхай жыццёвы шлях будзе шчаслівы і блаславёны, заўсёды спадарожнічаюць дабрыня і людская зычлівасць. Няхай Усявышні асвяціць Вашу дарогу, узмоцніць розум і сэрца, каб слова, якое выходзіць з вуснаў, станавілася агнём святла і моцай нашай веры. Вельмі ўдзячныя Богу за Вас, а Вам – за скарб ведаў, якімі дзеліцеся з намі, і за клопат пра касцёл.

*Вернікі і Касцёльны камітэт з парафіі свсв. Космы і Дам’яна ў Астраўцы*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Алегу Дулю**

з нагоды 18-годдзя святарскіх пасвячэнняў перасылаем сардэчныя пажаданні ўсіх Божых ласкаў. Няхай Найсвяцейшая Маці з любоўю чувае над Вамі, а Анёл-ахоўнік дапамагае ў цяжкія хвіліны і захоўвае ад злога. Няхай кожны дзень жыцця праходзіць у радасці, здароўе спрыяе, побач будуць толькі добразычлівыя людзі, а шчырая і ахвярная святарская праца прыносіць шчодры плён.

*Ружанцовае кола і вернікі з парафіі св. Станіслава Косткі ў Ваўкавыску*

**Паважанаму Ксяндзу Алегу Пятрашку**

з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем Божага блаславення, апекі Панны Марыі і святога Заступніка, шчодрых дароў Святога Духа, а таксама моцнага здароўя, душэўнага супакою, радасці і нястомнага запалу ў абвяшчэнні Божага слова.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам, Лядск*

**Паважанаму Айцу Дзмітрыю Лабкову**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, шчасця і стойкасці на кожны дзень святарскай паслугі. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя заўсёды Вамі апекуецца, Святы Дух адорвае шчодрымі дарамі, а Езус Хрыстус ахінае сваім блаславеннем. Шчасці Божа!

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам, Гродна-Дзевятоўка*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Ігару Анісімаву**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні: апекі Маці Божай, шчодрых дароў Святога Духа. Няхай Усемагутны асвячае дарогу Вашага жыцця, узмацняе розум і сэрца, каб слова, якое выходзіць з Вашых вуснаў, стала агнём святла і моцай нашай веры. Няхай Цела і Кроў Збаўцы так моцна злучаць Вас з Богам, каб ніколі не адаліліся ад Яго, а наша гарачая і сардэчная малітва хай будзе падтрымкай у рэалізацыі ўсіх планаў і намераў на ніве Пана і ў Вашым жыцці. Шчасці Божа на доўгія гады!

*З дарам малітвы, парафіяне з касцёла Беззаганнага Зачацця НПМ у Слоніме*

**Паважанаму Ксяндзу Алегу Пятрашку**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем самыя сардэчныя пажаданні. Няхай Бог блаславяе Ваш святарскі шлях, Марыя штодзённа апекуецца, а Святы Дух нястомна адорвае сваімі дарамі. Жадаем моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, поспехаў у нястомнай службе, цярплівасці і моцы ў вядзенні людзей да Пана, а таксама зычлівасці ад акружаючых.

*Вернікі з в. Еўлашы, парафія Лядск*

**Паважанаму Айцу Антонію Пажэцкаму**

з нагоды 16-й гадавіны святарскіх пасвячэнняў перасылаем букет найпрыгажэйшых пажаданняў: апекі Маці Божай і святога Заступніка, шчодрых Божых ласкаў, дароў Святога Духа, шмат сіл і здароўя ў рэалізацыі Божых планаў, а таксама добрых і зычлівых людзей на святарскім шляху. Няхай кожны дзень Вашай душпастырскай паслугі будзе напоўнены радасцю і супакоем, а праца на карысць Усемагутнаму і Яго люду прыносіць шчодры плён.

*Парафіяне з касцёла МБ Анёльскай у Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Свіслоцкаму**

з нагоды 45-годдзя ад шчырага сэрца жадаем усіх Божых ласкаў. Няхай кожны дзень будзе напоўнены радасцю, супакоем, надзеяй і верай. Няхай Найсвяцейшая Маці атуляе Вас плашчом сваёй апекі, а побач будуць добразычлівыя людзі і верныя сябры. Шчасці Божа!

*З павагай і малітвай, Францішканскі ордэн свецкіх, апостальства “Маргарытка” і Колы Жывога Ружанца з парафіі Тэалін*

**Усім настаўнікам з нагоды прафесійнага свята, а таксама ўсім супольнасцям Францішканскага ордэна свецкіх**

з нагоды літургічнага ўспаміну яго заснавальніка – св. Францішка – складаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, поспехаў у працы, здзяйснення мар і рэалізацыі высакародных планаў. Няхай добры Бог атуліць Вас сваёй апекай і блаславеннем на кожны дзень, а Марыя Панна адорыць сваёй мацярынскай любоўю і суцішыць усе трывогі.

*Францішканскі ордэн свецкіх з парафіі Тэалін*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Алегу Пятрашку**

з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, шчодрых дароў Святога Духа, сіл, стойкасці і нязгаснага запалу ў абвяшчэнні Божага слова. Няхай кожны дзень будзе напоўнены любоўю Усемагутнага, а выконваемая праца прыносіць радасць і блаславёны плён. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя нястомна Вамі апекуецца. Дзякуем за цудоўны прыклад набожнасці. Шчасці Божа на далейшую душпастырскую паслугу!

*З павагай і малітвай, парафіяне і апостальства “Маргарытка” з касцёла св. Станіслава ў Лядску*

**Паважанай Спадарыні Ірэне Ашмяне**

з нагоды Імянін шчыра жадаем моцнага здароўя, штодзённай радасці, душэўнага супакою, моцнай веры, гарачай любові і непахіснай надзеі, а таксама аптымізму і добрых людзей побач. Няхай Усемагутны адорыць Вас сваімі шчодрымі ласкамі, а святая Заступніца абараняе ад усіх нягод. Шчасці Божа!

*З павагай і малітвай, Францішканскі ордэн свецкіх і Колы Жывога Ружанца з парафіі Тэалін*

**Паважанаму Ксяндзу Здзіславу Вэдэру**

з нагоды прызначэння Канонікам складаем самыя сардэчныя пажаданні: сіл і цярплівасці ў паслузе, моцнага здароўя, душэўнага супакою, аптымізму на кожны дзень і непахіснай надзеі. Няхай добры Бог адорвае Вас сваёй любоўю і блаславеннем, а Найсвяцейшая Панна Марыя атуляе мацярынскай апекай. Шчасці Божа!

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам са Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Федуку**

словы шчырага спачування і жалю ў сувязі з адыходам да дому Пана любімай мамы перасылаюць члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Ражанкі

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб’ядноўваць пажаданні.**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла; тэл: **(8 0152) 75-64-38**; e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com**; **http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 5022; тыраж 4945; аб’ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная